# ЗВЯЗДА

5 чэрвеня 1996 г. серада, № 140 (22943)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў


## РОЗГАЛАС

### «ВЫРАТАВАННЕ»

**Акцыя Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» і газеты «Звязда» знаходзіць і міжнародную падтрымку.**



Днямі — і пра гэта мы раскажам падрабязна — грашовую дапамогу ў памеры 2 мільёны рублёў кожная атрымаюць сем'і, якія знаходзяцца ў найбольш складаным становішчы. А гэта — і сям'я Тэрэзы Іванаўны Слюкік (г. Валожын). Пра нялёгкі лёс гэтай жанчыны мы расказвалі ў «Звяздзе» ад 19 красавіка 1996 года.

Падтрымка Тэрэзы Іванаўны, як і яшчэ трох сем'яў стала магчымай дзякуючы БДФ «Дзецям Чарнобыля» і журналістам нямецкай газеты «Leipziger Volkszeitung» Томасу Маеру і Філіпу Вільке. Учора яны наведалі рэдакцыю «Звязды». Падрабязнасці гэтай сустрэчы і іх асабістага ўдзелу ў акцыі «Выратаванне» — у наступным нумары.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

### СТВОРАНА КАМІСІЯ

**Паводле паведамлення прэс-службы Кабінета Міністраў Беларусі, пры ўрадзе створана камісія па пытаннях пашпартызацыі насельніцтва.**

Пастановай Кабінета Міністраў зацверджаны палажэнне аб гэтай камісіі і яе персанальны састаў. Узначаліў камісію па пашпартызацыі насельніцтва намеснік прэм'ер-міністра Сяргей Лінг.

**БелаПАН.**

### БЕЗУПІННЫ МАЛОЧНЫ БРАК

**Толькі адзін узор прадукцыі з адзінаццаці, узятых на праверку ў адкрытым акцыянерным таварыстве «Баранавіцкі малочны камбінат», адпавядаў патрабаванням нарматыўнай дакументацыі.**

Такую нерадасную для пакупнікоў выснову зрабілі спецыялісты Галоўнага ўпраўлення Службы кантролю Прэзідэнта, якія праверылі гэта прадпрыемства разам з Баранавіцкім цэнтрам стандартызацыі і метралогіі.

Прадпрыемства, якое выпусціла нестандартную прадукцыю, аштрафавана больш чым на 50 мільёнаў рублёў. Пакараны і канкрэтныя работнікі, па чыёй віне дапушчаны брак.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**

### ЗДАЙ ДОЛАР — АТРЫМАЙ ПРЭМІЮ

**З учарашняга дня Галоўнае ўпраўленне Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь па гораду Мінску і Мінскай вобласці (ГУНБ), а таксама Троіцкае аддзяленне ГУНБ купляе долары ў грамадзян рэспублікі па максімальна магчымаму курсу валютнага калідора — 13.100 рублёў за 1 USD.**

Трэба зазначыць, што Нацбанку, напэўна, дазарэзу патрэбна валюта. І таму пры здачы валюты насельніцтву выплачваецца прэмія з разліку 900 рублёў за 1 долар. Натуральна, продаж валюты Нацбанкам не прадугледжаны. У ГУНБ таксама прымаюць і германскую марку за 8550 руб. з наступнай выплатай прэміі 555 руб. за адну марку. Прымаюцца расійскія рублі па курсу: адзін расійскі рубель за 2,5 беларускіх. Тут прэмія роўная 50 рублям.

Карэспандэнту «Звязды» спецыялісты Галоўнага ўпраўлення Нацбанка расказалі наступнае: цяперашнія ўмовы прыёму валюты будуць існаваць да наступнага генеральнага рашэння кіраўніцтва Нацбанка.

**Сяргей КУРКАЧ.**

### АРЫШТАВАНЫ БАНКАЎСКІ РАХУНАК БНФ, АПАЗІЦЫЯ РЫХТУЕ НОВУЮ АКЦЫЮ

**З Мінскай гарадской пракуратуры ў Белзнешэканомбанк паступіла ўказанне аб арышце банкаўскага рахунку Беларускага народнага фронту. Гэта значыць, што ўлады пачалі рабіць канкрэтныя крокі па забароне апазіцыйнай арганізацыі. Такое паведамленне было зроблена кіраўнікамі БНФ 3 чэрвеня на прэс-канферэнцыі, прысвечанай вядомым падзеям 30 мая.**

Гэты дзень, як заявіў сакратар Управы Фронту Вячаслаў Сіўчык, — значная вяха ў развіцці беларускай дэмакратыі, паколькі, калі падчас папярэдніх падзей адбываліся толькі лакальныя сутычкі прадстаўнікоў праваахоўных органаў з удзельнікамі акцый, то цяпер рэжым перайшоў да адкрытага запалохвання грамадзян. На прэс-канферэнцыі выступіў непасрэдны ўдзельнік пікетавання, праведзенага 30 мая, Аляксандр Фрыдрых, які атрымаў удары дубінкай па галаве, у выніку чаго яму былі накладзены чатыры швы. Па яго словах, прадстаўнікі праваахоўных органаў жорстка збівалі бяззбройных грамадзян, нягледзячы на іх узрост і пол. Сам А. Фрыдрых атрымаў удары па галаве з-за таго, што заступіўся за двух састарэлых людзей, якіх збівалі. Вяртаючыся з бальніцы, дзе яму была аказана неабходная дапамога, А. Фрыдрых убачыў каля будынка Акадэміі міліцыі вялікую групу (каля 50 чалавек) моцных маладых людзей у цывільным. На думку ўдзельнікаў прэс-канферэнцыі, менавіта гэтыя людзі маглі выконваць ролю «падсадных качак», правакуючы ўлады на расправу з удзельнікамі мірнага пікета.

На прэс-канферэнцыі было таксама паведамлена пра новую акцыю, што рыхтуецца БНФ, запланаваную на 22 чэрвеня, — дзень нападу нямецка-фашысцкіх захопнікаў на СССР. Фронт мае намер дзейнічаць у поўнай адпаведнасці з заканадаўствам — стварыць аргкамітэт па правядзенню акцыі, накіраваўшы ва ўстаноўлены тэрмін адпаведную заяўку ў Мінгарвыканком. Акцыя, паводле задумы арганізатараў, будзе насіць антыфашысцкі, антытаталітарны характар.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

### АДКРЫТЫ НОВЫЯ АЎТАПЕРАХОДЫ

**На карце аўтамабільных дарог Беларусі паявіліся чатыры новыя прыгранічныя аўтапераходы.**

Прадпрыемства «Інтэраўтатранс» Міністэрства транспарту і камунікацый адкрыла іх на трасах паблізу населеных пунктаў Горня Хоцімскага раёна, Кастрова Верхнядзвінскага раёна, Смолькі Касцюковіцкага раёна і Чачэрска. Цяпер у рэспубліцы стала 45 аўтапераходаў на граніцах з суседзямі. Тут ажыццяўляецца праверка дакументаў у вадзіцеляў праязджаючых аўтамабіляў, бяруцца дарожныя зборы. Усе аўтапераходы аснашчаны сістэмамі сувязі, ксераксамі і іншай неабходнай тэхнікай.

Дарэчы, як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА супрацоўнікі «Інтэраўтатранса», нядаўна выдадзена новая карта-схема аўтамабільных дарог Беларусі, дзе для зручнасці вадзіцеляў, акрамя ўсіх традыцыйных абазначэнняў, упершыню ўказаны і прыгранічныя аўтапераходы. Набыць яе можна будзе пакуль што толькі ў гэтых кантрольных пунктах пры перасячэнні беларускай граніцы.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**



*У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА*

## УЛАДНЫЯ СТРУКТУРЫ ПАВІННЫ АБАВЯЗКОВА ВЫКОНВАЦЬ КАНСТЫТУЦЫЮ І ЗАКОНЫ

**Пад старшынствам Сямёна Шарэцкага 3 чэрвеня адбылася расшыраная рабочая нарада Прэзідыума Вярхоўнага Савета з запрашэннем старшынь абласных і Мінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў.**

Заслухана інфармацыя аб рабоце органаў мясцовага самакіравання Брэсцкай вобласці і горада Мінска. Прамоўцы адзначылі адсутнасць з боку ўладных структур належных мераў па стабілізацыі палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы, становішча ў эканоміцы, сацыяльнай сферы. На фоне прадаўжэння спаду прамысловай вытворчасці, жыццёвага ўзроўню расце незадаволенасць у грамадстве, узмацняецца яго крыміналізацыя. Канстатавалася надыходзячая пагроза спынення дзейнасці мясцовых Саветаў. Выказана занепакоенасць тэндэнцыяй, калі многія заканадаўчыя акты тлумачацца на месцах па-рознаму, калі назіраецца ігнараванне заключэнняў Канстытуцыйнага суда. Былі прыведзены абуральныя факты грубага парушэння Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь, адсутнасці належнага кантролю за захаваннем законнасці ў дзяржаве з боку органаў пракуратуры і судовай улады.

У гэтай сітуацыі члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета адзначылі неабходнасць абавязковага выканання ўсімі ўладнымі структурамі Канстытуцыі і законаў дзяржавы. Намечана правесці шэраг кансультацый паміж кіраўнікамі заканадаўчай, выканаўчай, судовай уладаў, арганізаваць «круглыя сталы» з запрашэннем лідэраў палітычных і грамадскіх арганізацый.

Камісіі па заканадаўству даручана ў бліжэйшы час прадставіць Вярхоўнаму Савету законапраект аб адказнасці службовых асоб за невыкананне або парушэнне Канстытуцыі, законаў дзяржавы. Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню рэкамендавана падрыхтаваць і ўнесці на разгляд сесіі заканадаўчыя акты, што адносяцца да дзейнасці мясцовых Саветаў дэпутатаў, органаў тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў.

Вярхоўнаму Савету будзе прапанавана ўвесці ў практыку работы перыядычнае правядзенне парламенцкіх слуханняў па праблемах, што ўзнікаюць у сістэме мясцовых Саветаў дэпутатаў, і сітуацыі ў рэспубліцы ў цэлым з запрашэннем на іх кіраўнікоў усіх галін дзяржаўнай улады і мясцовых органаў.

Стэнаграму абмеркавання гэтага пытання вырашана накіраваць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку.

Абмеркаваны план парадку дня першай сесіі ў чэрвені. Прапануецца разгледзець на пленарных пасяджэннях больш як 30 пытанняў. Сярод іх праекты Жыллёвага кодэкса і кодэкса аб працы; законаў: «Аб парадку накіравання ваеннаслужачых і работнікаў міліцыі для выканання задач за межамі Рэспублікі Беларусь», «Аб мерах барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй», «Аб упаўнаважаным па правах чалавека Рэспублікі Беларусь», «Аб зваротах грамадзян», «Аб стварэнні новых рабочых месцаў і падтрымцы вытворча-гаспадарчай актыўнасці насельніцтва», «Аб тэлебачанні і радыёвяшчанні», «Аб навуковай дзейнасці» і іншыя.

Разгледжана Палажэнне аб парадку падрыхтоўкі і правядзення пасяджэнняў Прэзідыума Вярхоўнага Савета, падрыхтаванае Камісіяй па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы. Згодна з дакументам, пытанні для ўключэння ў план работы ўносяць кіраўнікі пастаянных парламенцкіх камісій і фракцый, упраўленняў Сакратарыята Вярхоўнага Савета. У пасяджэннях Прэзідыума з правам дарадчага голасу могуць прымаць удзел Прэзідэнт, Генеральны пракурор, старшыні Канстытуцыйнага, Вярхоўнага і Вышэйшага гаспадарчага судоў, Нацыянальнага банка і Кантрольнай палаты.

У мэтах павышэння эфектыўнасці і якасці заканатворчай работы, а таксама для стварэння уніфікаванай з Расійскай Федэрацыяй сістэмы заканадаўства вырашана ўтварыць Навукова-метадычны кансультатыўны Савет пры Старшыні Вярхоўнага Савета. Згодна з адобраным Палажэннем аб савеце, у яго будуць уваходзіць найбольш кваліфікаваныя і аўтарытэтныя вучоныя, эканамісты, юрысты-практыкі, прадстаўнікі цэнтральных і мясцовых органаў, дзейнасць якіх звязана з заканатворчай, праваприымяняльнай і навукова-даследчай работай. Сярод асноўных задач савета — дапамога заканадаўцам у вызначэнні канцэпцыі і зместу прававой палітыкі, выпрацоўцы перспектыўных праграм заканатворчых работ.

Абмеркаваны праграма і вучэбны план работы пастаянна дзеючага семінара для дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія працуюць на прафесіянальнай аснове. Праводзіць яго будзе Беларуская асацыяцыя палітычных навук.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

*СЁННЯ — СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ*

## СУПРАЦОЎНІЦТВА ЦІ МІЖДЗЯРЖАЎНЫ ЭГАІЗМ?

**Пры цяперашнім маштабе экалагічных пагроз, якія навіслі над планетай Зямля, няма нічога горшага, як жыць па прынцыпу: свая кашуля бліжэй да цела**

***«Поезд смерці» — так называецца фільм албанскіх кінадакументалістаў, які быў прадстаўлены на нядаўна прайшоўшым у Мінску тэлефоруме «Экасвет-96». Запомніўся ж ён трагічным сюжэтам-фактам: буйная хімічная фірма з Германіі пераправіла ў Албанію (не без дапамогі карумпаваных чыноўнікаў гэтай краіны) амаль 2000 тон ядавітых рэчываў — страціўшых тэрмін годнасці пестыцыдаў.***

***Жалезныя бочкі, якія знаходзяцца ў вагонах чыгуначнага саставу, даўно цякуць — ядавітыя лужыны расцякаюцца па наваколлі. Шмат бочак з неахоўваемага эшалона расцягнулі мясцовыя жыхары, а іх змесціва павылівалі хто куды захацеў. Які вынік? Сярод насельніцтва павялічылася колькасць разнастайных хвароб, гінуць навакольныя вадаёмы, атручана рыба.***

***Выйсця з патавай сітуацыі ў Албаніі, мяркуючы па ўсім, пакуль не бачаць. У той жа час нямецкая фірма «зэканоміла» на гэтай аперацыі многія мільёны дойчмарак і падлічвае прыбыткі.***

***Праўда, другі чыгуначны састаў з такімі ж «падарункамі» албанцы змаглі завярнуць назад, і цяпер ён «прапісаўся» на станцыі ў Дзюсельдорфе. Як рэагуюць на падобнае суседства афіцыйныя ўлады ў ФРГ, пакуль невядома.***

***Такая вось антыэкалагічная акцыя, якая яўна не дэманструе разумення таго, што прыроду Зямлі павінны ратаваць усе разам, інакш свет не выратуецца.***

***Гэты трывожны факт, як і ўвогуле тэндэнцыя, і паслужылі пачаткам дыялогу паміж журналістам і намеснікам міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя нашай рэспублікі Аляксандрам Апацкім.***

*Кінутыя ў гарах бочкі — ужо без таксічнага змесціва, але ад гэтага менш шкоднымі для прыроды яны не становяцца. Праз нейкі час перад жалезнай гарой і Манблан можа зрабіцца падобным на ліліпута.*

**— Прапаную, Аляксандр Мікалаевіч, адно цікавае выказванне: «У пачатку будучага стагоддзя партыі «зялёных» пачнуць падымацца ва ўсім свеце. Будуць стварацца экалагічная армія і экалагічная паліцыя. За ўрон асяроддзю краіны будуць падвяргацца міжнародным санкцыям». Аўтар прыведзенай цытаты, між іншым, не хто іншы, як... славуты У. Жырыноўскі. Нават дзіўна, што такая эксцэнтрычная асоба здольная на падобныя ўзважаныя прагнозы.**

Зрэшты, сусветнай экалагічнай паліцыі пакуль не існуе, а таму тая ці іншая краіна зусім не гарантавана ад з'яўлення на сваёй зямлі чарговага «цягніка смерці»...

— Палітыку, відаць, пакінем палітыкам, але што датычыцца прыведзенай думкі, то, з пункту гледжання экалогіі, абароны навакольнага асяроддзя яна заслугоўвае ўвагі.

Свет у чымсьці да гэтага і падыходзіць. Калі і на еўрапейскім узроўні, і ў сусветных маштабах не будзем прыкладаць вялікіх намаганняў, то планета ў хуткім часе можа аказацца на парозе ўсеагульнай экалагічнай катастрофы — і што тады чакае чалавецтва? Да гэтай высновы падводзяць даследаванні вучоных, практыка і факты. Ды і прыведзены «албанскі» прыклад вельмі наглядны і павучальны.

**— А што можна сказаць наконт «беларускіх» прыкладаў падобнага тыпу?**

— Такія «паязды» тэрыторыю Беларусі, дзякуй Богу, пакуль міналі. Аднак, калі перад шкоднымі рэчывамі на чыгунцы можна паставіць шлагбаум, то як «забараніць» лётаць у паветры лёгкім часцінкам-забруджвальнікам? Вось і пагляздзім, наколькі ўплываюць на Беларусь так званыя трансгранічныя пераносы забруджванняў асяроддзя на вялікія адлегласці, у першую чаргу — па паветры.

Маюцца даўно правераныя даныя: доля выпадання на беларускай зямлі серы, якая «прылятае» з іншых краін, складае больш як 85 працэнтаў. Доля Расіі ў гэтым — 3 працэнты, Украіны — 7, Польшчы ўжо — 30, краін Заходняй Еўропы — 34 працэнты. Што атрымліваецца? Нават калі мы ў сябе знізім выкіды ў паветра ў 2-3 разы, скароцім іх, скажам, да трох працэнтаў, то ўсё роўна з-за дзейнасці прамысловасці краін-суседзяў стан паветранага басейна ў рэспубліцы істотна не палепшым.

Па вокіслах азоту, якія выпадаюць у Беларусі, доля ўласных крыніц забруджвання наогул складае толькі 6 працэнтаў. Польшча «пастаўляе» іх нам 22, а Заходняя Еўропа — 55 працэнтаў! Можна сказаць, што яна іх «экспартуе» па паветры ў нашы прасторы, бо вятры ў Беларусі пераважна менавіта з Захаду. Такая вось сувязь у прыродзе і эканоміцы.

**— Як жа ратавацца ад такой напасці? Як ратаваць сваё здароўе?**

— Экалагічная палітыка ў гэтым плане сёння адназначная: неабходна рабіць усё для выпрацоўкі міждзяржаўных дагавораў, міжнародных канвенцый, сумесных праграм — у адзіночку змагацца з забруджваннем сваёй тэрыторыі Беларусь не зможа. Таму мы і зацікаўлены ў падпісанні рознага роду канвенцый. Беларусь падпісала іх ужо чатыры — у прыватнасці, аб трансгранічных пераносах забруджванняў па паветры.

Калі мы падпісваем міжнародныя канвенцыі і выконваем іх (падкрэслю гэта!), то атрымліваем значную дапамогу — ці праз узносы ў Глабальна-экалагічны фонд (ГЭФ) пры ААН, якія робяць краіны, ці напрамую — пры двух,- трохбаковых пагадненнях, і ў першую чаргу ад тых дзяржаў, ад якіх ідуць да нас забруджванні па паветры.

**— Значыць, пры агульнай заклапочанасці сусветнай супольнасці станам «здароўя» Зямлі кожная краіна, тым не менш, павінна адказваць сама за сябе, за свае «паводзіны». А што, Аляксандр Мікалаевіч, мы самі робім дзеля таго, каб неба над Беларуссю было чысцейшае?**

— За апошнія пяць гадоў агульны стан паветранага басейна ў Беларусі значна палепшыўся. Часткова тут паўплывала падзенне вытворчасці, змяншэнне спажывання нафтапрадуктаў, што пацягнула за сабой зніжэнне аб'ёму выкідаў у атмасферу.

Другі фактар — больш жорсткія патрабаванні з боку прыродаахоўных органаў, наяўнасць адпаведнага заканадаўства, хоць яно поўнасцю Вярхоўным Саветам пакуль і не прынята. Унесены змяненні і дапаўненні ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях. Задзейнічаны і эканамічныя рычагі, бо за выкіды і іншае падобнае, калі гэта робіцца ў павышаных памерах, прадпрыемствам у такіх жа памерах прыходзіцца і плаціць.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

*КРЫК ДУШЫ*

### НАВОШТА МЕЦЬ СВОЙ ДОМ, КАЛІ ЁСЦЬ ДОМ САСТАРЭЛЫХ?

Прабачце, дарагая рэдакцыя, што патурбую (можа, у апошні раз), але прымусіла гора.

Мне 79 гадоў. Усё сваё жыццё пражыла ў вёсцы, цяпер засталася адна. А бяда ў тым, што хата, у якой жыву, вельмі дрэнная, у аварыйным стане, а хлеў зусім разваліўся. Так што няма дзе трымаць карову і свіней, а таксама корм.

Некалькі гадоў таму, калі старшынёй нашага калгаса быў С. Шарэцкі, звярталася да яго, каб прадаў адну з пустуючых хат у нашай вёсцы. Тады мае зберажэнні дазвалялі зрабіць такую пакупку. Ён мне паабяцаў, але тыя хаты прадалі гараджанам на дачы, а не мне, хоць усё жыццё адпрацавала ў калгасе. Цяпер на свае абясцэненыя зберажэнні змагу набыць хіба што некалькі цаглін.

Пасля таго, як разваліўся хлеў, па дапамогу звярталася да цяперашніх старшынь калгаса і сельсавета, а таксама да раённых уладаў. Але безвынікова. Адно параіў старшыня сельсавета, каб прадала жывёлу, а ён дапаможа афарміцца ў дом састарэлых.

Дапамогі чакаць няма ад каго. Багатых родных і суседзяў не маю, а пенсія не дацягвае і да 300.000 рублёў. Праўда, ёсць сын, 1962 года нараджэння, які жыве ў Мінску. 9 гадоў правёў у турме, у яго чацвёра дзяцей, інвалід, нідзе не працуе, і яго «дапамога» заключаецца ў тым, што, калі прыязджае, то падчысчае ў мяне ўсё: і грошы, і бульбу, і сала. А калі што скажу не так, то абяцае яшчэ і пабіць. Вось і ўсё.

Пішу вам і не ведаю, навошта. Ці выліць сваё гора, ці папрасіць дапамогі, але лепш папрашу дапамогі.

**Ганна Рыгораўна РАЧЫЦКАЯ.**

*в. Сярэдняе Сяло, Валожынскі раён.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 210

### АБ НЕКАТОРЫХ ПЫТАННЯХ АЖЫЦЦЯЎЛЕННЯ РЭКЛАМНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

У мэтах недапушчэння распаўсюджвання нядобрасумленнай рэкламы і ўзмацнення абароны інтарэсаў спажыўцоў **пастанаўляю:**

1. Устанавіць, што:

нядобрасумленнай лічыцца рэклама, якая змяшчае лжывыя і іншыя недакладныя звесткі аб прадукцыі (работах, паслугах), відзе дзейнасці рэкламадаўца (асобы, дзейнасць або прадукцыя (работы, паслугі) якой рэкламуецца), распаўсюджванне якіх можа прывесці да парушэння або парушае правы і ахоўваемыя законам інтарэсы юрыдычных і фізічных асоб;

рэклама відаў дзейнасці, якія падлягаюць ліцэнзаванню або (і) ажыццяўляюцца са згоды дзяржаўнага органа, дапускаецца толькі пры наяўнасці ў рэкламадаўца адпаведнай ліцэнзіі ці (і) згоды на ажыццяўленне гэтай дзейнасці;

за парушэнне парадку рэкламавання відаў дзейнасці, што падлягаюць ліцэнзаванню, дзеянне выдадзенай рэкламадаўцу ліцэнзіі можа быць прыпынена або ён можа быць пазбаўлены такой ліцэнзіі па рашэнню органа, які выдаў ліцэнзію, ці Міністэрства па антыманапольнай палітыцы;

страты, нанесеныя спажыўцу тавараў, набытых у выніку нядобрасумленнай рэкламы, падлягаюць кампенсацыі рэкламадаўцам у поўным аб'ёме ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў».

2. Забараніць:

рэкламу, прызнаную ў адпаведнасці з гэтым Указам па рашэнню Міністэрства па антыманапольнай палітыцы нядобрасумленнай;

рэкламу акцый і аблігацый канкрэтных эмітэнтаў, якія не прайшлі дзяржаўную рэгістрацыю, ці рэкламу каштоўных папер, што прапануюцца для адкрытага продажу, без апублікавання сціслай інфармацыі аб такім продажы, заверанай Інспекцыяй па каштоўных паперах Міністэрства фінансаў;

рэкламу алкагольных і тытунёвых вырабаў, а таксама іншых відаў прадукцыі ў выпадках, прадугледжаных заканадаўствам;

рэкламу, якая дыскрэдытуе канкурэнта або змяшчае інфармацыю, што ўводзіць у зман спажыўца;

рэкламу парнаграфічных сачыненняў, друкаваных выданняў ці іншых прадметаў парнаграфічнага характару, а таксама рэкламу іншых відаў дзейнасці ці прадукцыі (работ, паслуг), ажыццяўленне або рэалізацыя (вытворчасць, аказанне) якіх супярэчыць заканадаўству;

рэкламу метадаў прафілактыкі, дыягностыкі і лячэння хвароб, а таксама медыцынскіх тэхналогій і лекавых сродкаў, не дазволеных Міністэрствам аховы здароўя;

рэкламу прадукцыі, што падлягае абавязковай сертыфікацыі, але не мае сертыфіката, які пацвярджае яе належную якасць;

ужыванне рэкламадаўцамі, што не з'яўляюцца біржамі, фондавымі біржамі ці банкамі, у сваіх назвах адпаведна слоў: «біржа», «фондавая біржа», «банк», а таксама выкарыстанне таварных знакаў, эмблем і іншай сімволікі грамадскіх аб'яднанняў асобамі, якія не маюць на гэта права;

размяшчэнне рэкламных пано і транспарантаў у паласе адводу аўтамабільных дарог;

распаўсюджванне і іншае выкарыстанне рэкламных матэрыялаў, увезеных на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь з парушэннем мытнага заканадаўства, у тым ліку без выплаты мытных плацяжоў;

абяцанне або гарантыю ў рэкламе будучай эфектыўнасці (даходнасці) рэкламуемага віду дзейнасці;

змяшчэнне ў рэкламе звестак аб эфектыўнасці (даходнасці) рэкламуемага віду дзейнасці за папярэдні перыяд, не пацверджаных данымі статыстычнай справаздачнасці ці бухгалтарскага балансу, заверанага аўдытарам;

параўнанне рэкламуемай прадукцыі (работ, паслуг) з прадукцыяй (работамі, паслугамі) іншых канкрэтных вытворцаў;

распаўсюджванне пры дапамозе рэкламы негатыўнай ацэнкі якасці прадукцыі (работ, паслуг) юрыдычных і фізічных асоб;

выкарыстанне ў рэкламе імёнаў асоб без іх згоды ці згоды іх законных прадстаўнікоў.

3. Камерцыйныя банкі, фінансавыя, страхавыя і інвестыцыйныя прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы, іншыя юрыдычныя асобы, якія прыцягваюць сродкі грамадзян і юрыдычных асоб або рэалізуюць тавары (паслугі), абавязаны:

пры распаўсюджванні рэкламы каштоўных папер указваць памеры дывідэндаў, выплачаных па такіх паперах на працягу апошняга фінансавага года, дату і нумар рэгістрацыі выпуску рэкламуемых каштоўных папер, месца іх рэгістрацыі і месца азнаямлення з умовамі выпуску;

пры распаўсюджванні рэкламы аб прыцягненні грашовых сродкаў пад працэнты ўказваць працэнты, выплачаныя па розных відах укладаў на працягу апошняга фінансавага года з разбіўкай па месяцах (кварталах), калі выплаты праводзіліся штомесячна (штоквартальна).

4. Прадугледзець, што:

рэкламадаўцы, чыя рэклама прызнана нядобрасумленнай, абавязаны ў трохдзённы тэрмін спыніць распаўсюджванне такой рэкламы. Пры адсутнасці рэкламадаўца, а таксама пры невыкананні ім гэтага патрабавання распаўсюджванне нядобрасумленнай рэкламы спыняецца гарадскім ці раённым выканаўчым камітэтам. Пры гэтым выканаўчы камітэт мае права пакрыць панесеныя расходы за кошт рэкламадаўца;

у выпадку распаўсюджвання рэкламадаўцам нядобрасумленнай рэкламы аб каштоўных паперах Інспекцыя па каштоўных паперах Міністэрства фінансаў мае права прыпыніць або забараніць выпуск адпаведных каштоўных папер. Пры гэтым усе страты, нанесеныя такой забаронай, кампенсуюцца за кошт рэкламадаўца;

сродкі масавай інфармацыі, якія размясцілі нядобрасумленную рэкламу, абавязаны апублікаваць за свой кошт у тэрмін, устаноўлены Міністэрствам па антыманапольнай палітыцы, рашэнне аб прызнанні яе нядобрасумленнай;

здзелкі па распаўсюджванню (размяшчэнню) рэкламы, заключаныя з парушэннем патрабаванняў гэтага Указа, супярэчаць інтарэсам дзяржавы і прыводзяць да вынікаў, прадугледжаных артыкулам 51 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

5. Ускласці на Міністэрства па антыманапольнай палітыцы кантроль за ажыццяўленнем рэкламнай дзейнасці, а таксама разгляд скаргаў і іншых матэрыялаў аб парушэнні заканадаўства аб рэкламнай дзейнасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Рашэнні Міністэрства па антыманапольнай палітыцы па пытаннях прызнання рэкламы нядобрасумленнай з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання, юрыдычных і фізічных асоб.

6. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

у месячны тэрмін прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы аб устанаўленні адказнасці за парушэнне заканадаўства аб рэкламнай дзейнасці, прадугледзеўшы, што такую адказнасць нясуць рэкламадаўцы, а таксама асобы, якія распаўсюджваюць (размяшчаюць) рэкламу;

у двухмесячны тэрмін забяспечыць прывядзенне рашэнняў урада і падведамных яму органаў у адпаведнасць з гэтым Указам;

у трохмесячны тэрмін унесці Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы аб заканадаўчай абароне права грамадзян на ахову здароўя пры распаўсюджванні рэкламы;

да 1 ліпеня 1996 г. зацвердзіць часовае палажэнне аб парадку ажыццяўлення рэкламнай дзейнасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, уключыўшы ў яго патрабаванне аб абмежаванні аб'ёму рэкламы ў сродках масавай інфармацыі, а таксама правілы рэгулявання асобных відаў рэкламнай дзейнасці.

7. Гэты Указ увесці ў дзеянне праз 10 дзён пасля яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

3 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ «ЗВЯЗДЫ»! Паведамляем вам, што згодна з дасягнутай дамоўленасцю паміж рэдакцыяй газеты «Звязда» і рэспубліканскім дзяржаўным аб'яднаннем «Белпошта» ўсе паштовыя аддзяленні рэспублікі прымаюць падпіску на нашу газету як на месяц, трэці квартал, так і ў цэлым на другое паўгоддзе. Гэта рашэнне кіраўніцтва «Белпошты» давяло да адказных выканаўцаў на месцах.**

***Нагадваем, што падпісны кошт «Звязды» на паўгоддзе для індывідуальных падпісчыкаў складае 81.600 рублёў, на квартал — 40.800, на месяц — 13.600.***

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)

Каму
(прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

| Кошт | падпіскі | ______ руб. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______ руб. | | |

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)

Каму
(прозвішча, ініцыялы)

ПРАБЛЕМА

# НА ШТО «ХВАРЭЕ» МЕДЫЦЫНА ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

**Ніхто не будзе спрачацца з наступнай ісцінай, што здароўе насельніцтва, развіццё і ўдасканаленне сістэмы яго аховы з'яўляецца адной з галоўных задач нашага грамадства, бо ад гэтага ў многім залежыць далейшы ход яго сацыяльна-эканамічнага развіцця. Нават у перыяд эканамічнага крызісу дзяржава павінна гарантаваць сваім грамадзянам нармальны ўзровень медыцынскай дапамогі, не дапускаць эпідэмій, захаваўшы прыярытэты за мацярынствам і дзяцінствам і аказаннем хворым экстраннай медыцынскай дапамогі. І кожнаму чалавеку зразумела, што прамую адказнасць за прыняцце мераў па ахове жыцця, дабрабыту і здароўю людзей павінна несці дзяржаўная ўлада.**

**Між тым, патэнцыял грамадскага здароўя ў апошнія гады ў нашай краіне пагаршаецца. Рэзервы яго невысокія і маюць тэндэнцыю да скарачэння. Калі яшчэ дваццаць гадоў назад група здаровых складала прыблізна 30 працэнтаў насельніцтва, то зараз яе доля складае не болей за 20 працэнтаў.**

Зрабіўшы такі ўступ да размовы, галоўны ўрач Гомельскай абласной бальніцы Валерый Разанскі і начальнік упраўлення аховы здароўя аблвыканкома Уладзімір Варабей канстатавалі, што ахова здароўя на Гомельшчыне сёння знаходзіцца ў больш складаным становішчы, чым у іншых рэгіёнах краіны ў сувязі з тым, што да агульных праблем гэтай галіны дабавіліся яшчэ і праблемы, звязаныя з вынікамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Па прычыне чаго ў вобласці расце эндакрынная паталогія, трывожыць рост захворванняў шчытападобнай залозы, рост хвароб крыві, злаякасных новаўтварэнняў, захворванняў органаў дыхання, сардэчна-сасудзістай сістэмы і г. д. Карацей кажучы, куды ні кінь — усюды клін.

Аднак у гэтай складанай абстаноўцы медыкі Гомельшчыны працуюць з вялікай самаадданасцю і не знізілі аб'ёмаў урачэбнай і кансультатыўнай дапамогі, нікому не адмовілі ў экстраннай аперацыі, выкліках «хуткай дапамогі» і інш. Сёння тут дзейнічаюць 130 бальнічных устаноў і ў іх працуюць каля 5 тысяч урачоў і звыш 17 тысяч чалавек сярэдняга медперсаналу. Цікава будзе параўнаць і такія лічбы. Калі ў 1991 годзе забяспечанасць урачэбнымі кадрамі склала 29,3 на дзесяць тысяч насельніцтва (па рэспубліцы — 40,7), дык на пачатак сёлетняга — 31,5 (па рэспубліцы — 87,6). Адставанне ад сярэднерэспубліканскіх паказчыкаў назіраецца і ў забяспечанасці сярэднім медперсаналам.

Асаблівы дэфіцыт урачэбных кадраў у Брагінскім, Буда-Кашалёўскім, Ельскім, Веткаўскім, Лельчыцкім і Чачэрскім раёнах, дзе хранічна не хапае педыятраў, тэрапеўтаў, анестэзіёлагаў, анколагаў і да т. п. Усяго да нормы патрэбна і ў раёнах, і ў Гомелі 735 спецыялістаў (даныя па стану на 1 лютага 1996 года).

Трэба адзначыць, што за пяць апошніх гадоў аблвыканком выдзеліў упраўленню аховы здароўя 15 тысяч долараў, якія былі размеркаваны паміж абласнымі медыцынскімі ўстановамі для набыцця неабходнага абсталявання, што дазволіла значна палепшыць дыягнастычны і лекавы працэсы. Так, былі ўкаранёны новыя метады даследаванняў, у тым ліку камп'ютэрная тамаграфія, аперацыі на брушной поласці пры дапамозе эндаскапічнай тэхнікі, літатрыпсія. Гэтыя навінкі садзейнічалі скарачэнню знаходжання хворых у бальніцах і, натуральна, збераглі нямала грашовых сродкаў, зменшылася таксама колькасць хворых, якія з вобласці накіроўваліся ў рэспубліканскія медыцынскія цэнтры для абследавання.

— Пералік зробленага за апошнія гады, — гавораць Валерый Іванавіч і Уладзімір Сцяпанавіч, — можна працягваць і далей. Аднак, — і тут яны цяжка ўздыхаюць, — у нас столькі праблем у медыцыне, што гэтая важная галіна, можна сказаць, апынулася на мяжы жабрацтва. Бо з-за адсутнасці неабходнага фінансавання ва ўсіх медыцынскіх установах вобласці пастаянна расце крэдыторская запазычанасць па ўсіх артыкулах расходаў.

Па стану на 15 мая яна складала... 183.722 мільёны рублёў. Велізарная лічба! Найбольшыя цяжкасці складваюцца з харчаваннем хворых па медыцынскіх нормах, якіх ніхто не адмяняў, — 20 мільярдаў запазычанасці за яго; каля 16 — за медыкаменты, звыш ста — за ацяпленне і электраэнергію і да т. п. Вялікая частка медыкаў яшчэ не атрымала зарплату за сакавік. Дык з якім настроем яны працуюць?

Работнікаў медыцыны заклікаюць эканоміць бюджэтныя сродкі, што яны і робяць (толькі ці на карысць справе?). Так, летась яны скарацілі 335 бальнічных ложкаў і ў аддзяленнях бальніц рознага ўзроўню функцыянавалі 2183 ложкі дзённага знаходжання хворых (днём іх лечаць, на ноч адпраўляюць дадому, у выніку чаго цяжка дасягнуць патрэбнага лекавага эфекту). Гэтыя і іншыя меры далі магчымасць летась зменшыць расходаванне бюджэтных сродкаў на 6,5 мільярда рублёў. Акрамя таго, скарачэнне колькасці работнікаў апарату кіравання зэканоміла яшчэ 4,7 мільярда рублёў.

Пэўныя надзеі ўскладаліся і на тое, каб ад прадпрыемстваў, арганізацый, калгасаў і саўгасаў прыцягнуць дадатковыя сродкі і набыць на бясплатнай аснове абсталяванне, медінструментарый, медыкаменты, прадукты харчавання, агародніну, матэрыялы для рамонту бальніц, паліклінік, фельчарска-акушэрскіх пунктаў і г. д. І хаця кожнаму вядома, у якім стане знаходзяцца сёння гэтыя «спонсары», аднак сякую-такую дапамогу медыкам яны ўсё ж аказалі.

Вялікія надзеі ўскладалі медыкі і на тое, што матэрыяльна-тэхнічная база лячэбна-прафілактычных устаноў вобласці значна палепшыцца з уводам у строй новых медыцынскіх аб'ектаў. У стадыі будаўніцтва іх зараз налічваецца 25. У тым ліку — спецдыспансер у Гомелі, дыягнастычны цэнтр абласной клінічнай бальніцы, прыбудова да медыка-генетычнага цэнтра, інфекцыйная бальніца, абласны кардыялагічны дыспансер, платны корпус шпіталя інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны, дзіцячая бальніца ў Мазыры і г. д. але, на жаль, будаўніцтва шэрага з іх прыпынена з-за адсутнасці сродкаў, у выніку чаго з будоўляў расцягваюцца радыятары ацяплення, выдзіраюцца рамы, раскрадаюцца матэрыялы і да т. п.

Складанае становішча з развіццём матэрыяльнай базы, як гэта ні дзіўна, складваецца і ў абласным цэнтры. Забяспечанасць паліклінічнымі ўстановамі тут дасягнула ўсяго 63 працэнтаў да нарматыву. За апошнія пяць гадоў тут не ўведзена ў строй ніводнага медыцынскага аб'екта, і найбольш востра стаіць пытанне наконт будаўніцтва дзіцячых і стаматалагічных паліклінік.

На розных нарадах у вобласці і міністэрстве аховы здароўя рэспублікі шмат гаворыцца аб тым, каб стварыць прыярытэт у фінансаванні ўстаноў аховы здароўя Гомельшчыны, якая найбольш пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, прыняць вычарпальныя меры для ўхілення складанасцей, праблем, няўвязак у гэтай справе, ажыццявіць паэтапнае выдзяленне грашовых сродкаў для выканання рамонтных работ на інжынерных сетках, набыцця абсталявання для кацельняў і пральняў, санітарнага транспарту і г. д. і да т. п. Размоў і прапаноў многа, а воз, як кажуць, і зараз там: медыцына Гомельшчыны па-ранейшаму «хворая». Таму складваецца ўражанне, што хтоніхто ў вярхах не разумее, як адаб'ецца на здароўі нацыі пастаянная эканомія на медыцыне. Сумна і сорамна...

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# ЛІСТЫ Ў ГАЗЕТУ — ЛЮСТЭРКА НАСТРОЯЎ У ГРАМАДСТВЕ

**Газета — гэта бадай што адзінае засталося месца, куды, як у апошнюю інстанцыю, прыходзяць па дапамогу людзі. Калі год назад у Беларусі адбыўся рэферэндум, большасць грамадзян рэспублікі выказаліся за тое, каб у нас роўнымі правамі карысталіся дзве мовы — руская і беларуская. А што атрымалася на практыцы? Пралаз, атрыманы ў выніку плебісцыту, хутка скарысталі ў дзяржаве не на карысць беларускай мовы. Ужо пачатак навучальнага года летась прынёс сумныя весткі з розных месцаў. Нам пісалі настаўнікі, бацькі тых дзетак, якія вучыліся ў беларускіх класах, што ім даводзіцца змагацца за тое, каб захаваць сваё права навучаць дзяцей на беларускай мове. За год тэндэнцыі русіфікацыі сталі набываць масавыя маштабы. Пра што сведчыць літаральна шквал лістоў у нашу газету. Друкуем сёння частку дасланай нам пошты, якая сведчыць, што сітуацыя ў краіне з мовай становіцца ўсё больш крытычнай, і галоўнае — на яе ніяк не рэагуюць тыя, каму па свайму становішчу неабходна ажыццяўляць дзяржаўную палітыку ў галіне, пра якую ідзе гаворка.**

**Загадчыца аддзела культуры Таццяна АНТОНАВА.**

### ПІСЬМЕННІКІ З БОЛЕМ І ТРЫВОГАЙ АБ РОДНАЙ МОВЕ

На пашыраным пасяджэнні прэзідыума Саюза беларускіх пісьменнікаў было абмеркавана пытанне аб стане выкладання беларускай мовы і літаратуры ў школах Рэспублікі Беларусь. З глыбокім болем і трывогай удзельнікі пасяджэння прыводзілі шматлікія факты паўсюднага скарачэння беларускамоўных школ і класаў, навучальных праграм і планаў па роднай мове і літаратуры. Гаворка ішла пра тое, што ў апошні час рэзка знізіўся выпуск мастацкіх твораў беларускіх класікаў і сучасных паэтаў і празаікаў, запаволілася, а то і прыпынілася праца над стварэннем падручнікаў і метадычных дапаможнікаў для школ, сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў; так і не наладжана падрыхтоўка дастатковай колькасці беларускамоўных настаўнікаў па гісторыі, геаграфіі, біялогіі, матэматыцы і іншых прадметах...

Пісьменнікі адзначаюць, што ўлады Беларусі не хочуць разумець трагічнага становішча беларускай мовы ў школе, дзе сёння ў класах з беларускай мовай выкладання вучыцца толькі чвэрць усіх першакласнікаў, а ва ўсіх гарадах рэспублікі працуе ўсяго толькі пяць сярэдніх школ на беларускай мове.

Удзельнікі пашыранага пасяджэння Прэзідыума Саюза беларускіх пісьменнікаў лічаць такое становішча недапушчальным і патрабуюць ад Вярхоўнага Савета і Кабінета Міністраў Беларусі прыняць неабходныя меры для строгага захавання Канстытуцыі краіны і законаў аб мовах і адукацыі. У якасці адной з найважнейшых мераў, як указваецца ў Заяве, павінна быць увядзенне абавязковых выпускных экзаменаў па беларускай і рускай мовах і літаратуры ва ўсіх школах Рэспублікі Беларусь і абавязковых уступных экзаменаў ва ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы, а таксама патрабаванне ад усіх, хто паступае на дзяржаўную службу ў Рэспубліцы Беларусь, свабоднага валодання беларускай і рускай мовамі.

### НАСТАЎНІКІ ЗАНЕПАКОЕНЫ

У канцы навучальнага года ў Віцебску адбыўся сход настаўнікаў беларускай мовы і выкладчыкаў, якія вядуць выкладанне па-беларуску. Яны звярнуліся з заявай у газету «Звязда». У ёй адзначаецца, што з боку дзяржаўных структур назіраецца паслабленне ўвагі да нацыянальнай адукацыі. У сувязі з гэтым настаўнікі і выкладчыкі выказваюць сур'ёзную заклапочанасць скарачэннем колькасці класаў з беларускай мовай навучання, недастатковай колькасцю падручнікаў і дапаможнікаў на беларускай мове па розных прадметах.

Настаўнікі хацелі б звярнуць увагу віцебскіх уладаў на тое, што ўжо мінуў тэрмін, калі павінна было быць станоўча вырашана пытанне аб адзінай на ўвесь горад беларускамоўнай нацыянальнай гімназіі.

ТЫПОВАЕ ЗДАРЭННЕ

### ДЫРЭКТАР ШКОЛЫ ПРАПАНАВАЛА ЛІКВІДАВАЦЬ БЕЛАРУСКІ КЛАС...

Бацькі 4-а класа школы-гімназіі № 103 г. Мінска былі непрыемна здзіўлены, калі 24 мая прыйшлі на ўрачысты заключны бацькоўскі сход. Дырэктар З. Чахоўская растлумачыла ім, што ў школе «цяжкасці з выкладаннем на беларускай мове». Як напісалі ў сваім лісце ў рэдакцыю «Звязды» прысутныя на сходзе бацькі, гаворка пайшла пра ліквідацыю беларускага класа, у якім чатыры гады ўжо правучыліся іх дзеці. У выніку спрэчак прысутныя раскалоліся на дзве групы, што ў рэшце рэшт перашкодзіла святочна адзначыць заканчэнне года і развітацца з першай настаўніцай.

Аўтары ліста пішуць, што тэндэнцыя да ліквідацыі беларускіх класаў выявілася раней, таму бацькі папярэдне сустракаліся з загадчыкам аддзела адукацыі Першамайскага раёна г. Мінска сп. Ю. Бандарэнкам, які адзначыў, што закрыццё беларускіх класаў з'яўляецца юрыдычным парушэннем Закона аб адукацыі і ніякага збору подпісаў на захаванне пятых беларускіх класаў праводзіць не трэба. Дырэктар школы ў сваю чаргу прыняла агульную заяву, падпісаную бацькамі большай часткі вучняў на захаванне класа. Толькі заўважыла, што гэта ставарае ёй лішні клопат па забеспячэнню адзінага беларускага класа ў школе-гімназіі падручнікамі і настаўнікамі.

Як адзначаюць даслаўшыя ў рэдакцыю ліст бацькі, яны расцэньваюць паводзіны дырэктара як цынічныя і няшчырыя. У прыватнасці, гэта датычыцца сцвярджэнняў дырэктара, што настаўнікі адмаўляюцца выкладаць свае прадметы па-беларуску. У той час як той жа загадчык раённага аддзела адукацыі Мінска гаварыў, што ўвесь яго педагагічны персанал без выключэння здаў належныя экзамены на права выкладання па-беларуску.

У бацькоў, якія апынуліся ў такой сітуацыі, узнікае справядлівае пытанне: хто вінаваты ў гэтай сітуацыі? Бо ў іх уяўленні, школа створана і дзейнічае не для дырэктараў і настаўнікаў, а для дзяцей. І таму праблемы забеспячэння працэсу навучання, укамплектавання выкладчыцкім персаналам павінны вырашацца органамі адукацыі, а не бацькамі.

І яшчэ адна цікавая дэталь. Пабачыўшы рашучасць бацькоў, дырэктар школы папярэдзіла, што калі ў выніку падзелу беларускага класа райана зробіць яшчэ адзін рускі клас, дык беларускі будзе займацца ў другую змену. «Калі падобныя дыскрымінацыйныя ў адносінах да беларускай мовы заявы будуць ажыццёўлены, — пішуць бацькі, — то мы вымушаны будзем звярнуцца ў Адміністрацыю Прэзідэнта і Пракуратуру Рэспублікі Беларусь, бо адзначаныя дзеянні парушаюць Канстытуцыю і законы Беларусі».

### СЯБРЫ ПІНСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ І ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ Б'ЮЦЬ ТРЫВОГУ

З Пінска мы атрымалі ліст, падпісаны Радай таварыства ТБМ і ТБШ. У ім гаворыцца, што грамадскасць Пінска мусіла наладзіць пасяджэнне, на якім было разгледжана становішча беларускай мовы ў іх горадзе. З гэтай нагоды была прынята Заява аб праблеме падрыхтоўкі нацыянальных кадраў у Рэспубліцы Беларусь. У прыватнасці, у заяве гаворыцца, што пасля рэферэндуму ў нашай дзяржаве пачаліся русіфікацыя і яшчэ большая дыскрымінацыя беларускай мовы, чым раней.

«Мы лічым, — адзначаецца ў заяве, — што падрыхтоўка нацыянальных кадраў для розных галін народнай гаспадаркі з'яўляецца найпершым і найважнейшым клопатам дзяржавы і што беларускую нацыянальную адукацыю, якая пачынае страчваць свае пазіцыі ў грамадстве, трэба ратаваць як мага хутчэй. Калі ёсць людзі, якія жадаюць гаварыць і вучыць сваіх дзяцей і ўнукаў на беларускай мове, ім трэба ўсяляк дапамагаць — гэта абавязак дзяржавы і яе кіраўніцтва».

Мінскі парнікова-цяплічны камбінат — адзіная ў сваёй галіне гаспадарка, дзе для апылення пасеваў прымяняюць пчол. З-за цяжкасцей утрымання гэтых маленькіх крылатых памочнікаў паўсюдна цяпер ужываюць метады самаапылення цяплічных культур. Дбайныя гаспадары мінскага камбіната здолелі захаваць старую надзейную тэхналогію. Агуркі, якія выраслі з дапамогаю пчол, маюць выдатны смак і падыходзяць для засолкі. Акрамя дапамогі ў цяпліцах, гэтыя пчолы выкарыстоўваюцца яшчэ і як жывыя лекі ў гарадскім цэнтры апіятэрапіі.

**На здымках:** у цяпліцах рыхтуюцца да пасадкі чарговых культур; урач В. Млявы адбірае пчол для лекавых працэдур.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

КУЛЬТУРА

# НЕ ТОЛЬКІ ГОРКІЯ СЦЯЖЫНЫ...

У складаных грамадскіх варунках, якія так балюча закранулі кожнага жыхара краіны, акрамя тых, хто, наадварот, казачна абагаціўся на слязах і нястачах большасці, вышэйшыя навучальныя ўстановы, як ні дзіўна, зведалі не толькі горкія сцяжыны. Хаця і іх давялося прайсці даволі багата, і хто адкажа, колькі трэба прайсці яшчэ! Тут і пастаянны, мякка кажучы, дэфіцыт фінансавання, мізэрная аплата працы ўсіх катэгорый супрацоўнікаў, скарачэнні штатаў, набору студэнтаў і шмат чаго іншага.

Але гаворку павяду ў іншым накірунку. Не для таго, каб неяк абысці істотнае і балючае, а па прычыне ажыццяўлення многіх станоўчых фактаў у дзейнасці ВНУ культуры і мастацтваў.

У 1991—92 гг., калі стала ясна, што саюзныя магчымасці ў галіне падрыхтоўкі кадраў культуры (а трэба мець на ўвазе тое, што амаль усе спецыяльнасці кіно, многія тэатральныя і харэаграфічныя былі сканцэнтраваны ў Маскве і Ленінградзе) ужо дашчэнту вычарпаны, наспела вострая неабходнасць сучаснага рэфарміравання галіновай вышэйшай школы Беларусі. Па-першае, на парадак дня выйшлі ўжо даўно актуальныя настрыфікацыйныя моманты — г. зн. прызнанне нашай спецыяльнай вышэйшай падрыхтоўкі за мяжой. Яна там проста не каціравалася. А гэта ў сваю чаргу не спрыяла выканаўцам і спевакам, а таксама не прыцягвала да навучання ў нашых ВНУ замежных студэнтаў. Пераўтварэнне інстытутаў ва ўстановы універсітэцкага тыпу, вядома ж, не магло не кранууць настальгічна настроеную частку прафесарска-выкладчыцкага персаналу. Не назаву іх кансерватарамі, хаця і гэта ў нейкай ступені ім адпавядае, а, што больш натуральна, — працуючымі пенсіянерамі, прадстаўнікамі «легендарнай, лепшай у свеце савецкай школы».

Гэта сёння можна лёгка падаваць сітуацыю ў падобным святле. А тады, калі б не падтрымка ідэі былым міністрам культуры спадаром Яўгенам Вайтовічам і, вядома ж, па-рэфарматарску настроенымі маладымі выкладчыкамі ВНУ, не з'явіліся б у 1991 годзе пастановы Савета Міністраў аб пераўтварэнні Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Беларускую акадэмію мастацтваў, у 1992 годзе — Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя Луначарскага ў Беларускую акадэмію музыкі і ў 1993 годзе — Мінскага інстытута культуры ў Беларускі універсітэт культуры.

Лёд крануўся, спадары прысяжныя! Колькі было папярэдніх перамоў аб увядзенні падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі па новых сучасных спецыяльнасцях ці па тых, што на апошнім дыханні працягвала яшчэ рыхтаваць Беламенная. Вынік — нулявы. Напэўна, страх і постсавецкая салідарнасць, а яшчэ «тонкае» адчуванне субардынацыі (маўляў, там у Маскве лепшыя, чым мы) не давалі магчымасці хоць крыху скрануць гэтую справу з мёртвага пункту на пасяджэннях вучоных саветаў.

Першай зварухнулася Беларуская акадэмія мастацтваў. Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што мастакі заўсёды вызначаліся трывалай самастойнасцю светапоглядаў і адчуваннем свайго ў плыні нацыянальнага жыцця. Яны і сталі тым падмуркам новаўвядзенняў. Асабліва ў працэсе беларусізацыі навучальнага працэсу. Ужо ў 1993 годзе заняткі, пасяджэнні розных узроўняў структурных падраздзяленняў БелАМ, справаводства вяліся па-беларуску.

Менавіта ў пазначаны час адбыліся першыя ў Беларусі наборы рэжысёраў дакументальнага і мастацкага кіно, а праз год уведзена новая спецыялізацыя — «акцёр драматычнага тэатра і кіно, чытальнік». Пры гэтым давайце па магчымасці ўявім сабе парытэты беларускай драматургіі і паэзіі (ніколі не прыніжаючы іх асабістай годнасці) і тады стане яшчэ больш відавочна, на колькі дзесяцігоддзяў мы спазніліся, здавалася б, у такой простай рэчы, як стварэнне паэтычнага тэатра.

Апісваць усе перыпетыі нова-ўвядзенняў у газетным артыкуле, відаць, не варта. Пачынаючы з 1993 года ва універсітэце пачалася падрыхтоўка кадраў па спецыяльнасцях, па якіх раней на Беларусі яны ніколі не рыхтаваліся. Сярод іх «мастацтва эстрады», «харэаграфічнае мастацтва», «літаратурная работа» са спецыялізацыяй «драматургія», «рэжысура» са спецыялізацыяй «рэжысура свят» і іншыя.

Тлумачыць іх патрэбу для нашага грамадства і для нацыянальнай культуры, напэўна, не трэба. Цяжка патлумачыць і зразумець адваротнае: чаму яны не былі ўведзены раней? Чаму, калі абвяшчаўся лозунг спрыяння нацыянальнай культуры, на самай справе рабілася ўсё наадварот?

Па прыклады далёка хадзіць не даводзіцца. Ужо колькі часу нашы бібліятэкары, якія навучаюцца ва універсітэце пяць (!) гадоў, акрамя выдатнага авалодвання мовай і літаратурай выконваюць патрабаванні навучальнага плана, што прадугледжвае выкладчыцкую кваліфікацыю. Гэта значыць псіхолага-педагагічны цыкл, адпаведныя практыкі. Больш таго, з-за дэфіцыту выкладчыцкіх кадраў у школах, асабліва ва ўмовах сельскай мясцовасці, яны, як правіла, туды і запрашаліся выкладаць гэтыя прадметы. Бо ў адваротным выпадку гэта даводзілася рабіць выкладчыкам фізвыхавання. А ўзаконіць гэтую, здавалася б, відавочную з'яву, надаць ім кваліфікацыю выкладчыка мовы і літаратуры ўдалося толькі сёлета. А цяпер задам рытарычнае пытанне: каму стане горш ад таго, што штогод, пачынаючы з 2001 года, навучальная практыка краіны атрымае два дзясяткі бібліятэкараў-выкладчыкаў. Прычым, асмелюся далажыць, выкладчыкаў своеасаблівых, неардынарных. Усё-такі навучанне ў творчай ВНУ накладае свой непаўторны адбітак. Тое, што драматургі рыхтуюцца і, напэўна, хутка ўжо заявяць пра сябе ў кіно і тэатры, таксама добра. І толькі шкада, што ім некалі не выкладалі Кандрат Крапіва і Андрэй Макаёнак і іншыя знакамітыя драматургі, і вельмі добра, што сёння да іх маюць магчымасць прыйсці Аляксей Дудараў, Алесь Петрашкевіч, Георгій Марчук...

У гэтым матэрыяле можна было б ставіць кропку. Але не адзначыць, што ў гэтыя ж гады ў Беларускай акадэміі музыкі ўпершыню сталі рыхтаваць балетмайстраў-пастаноўшчыкаў, а ў Беларускай акадэміі мастацтваў сёлета будзе ажыццёўлены першы набор артыстаў тэатра аперэты, нельга. І вось чаму. Я згодзен з вядомым выказваннем, што ВНУ павінна быць кансерватыўнай у асноўнай сваёй місіі — захаванні і перадачы ведаў, але ў плане мабільнасці хочацца адзначыць, што мець у Мінску спадара Валянціна Елізар'ева і не рыхтаваць балетмайстраў, — хіба гэта па-гаспадарску? Гэта зорка сусветнага маштабу. Пад такіх асоб можна і трэба адкрываць падрыхтоўку спецыялістаў, і добра, што гэта разумеюць і падтрымліваюць у Міністэрстве адукацыі і навукі.

Адзначаныя змены паспрыялі таму, што ў шэрагі выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў культуры і мастацтваў прыйшлі Віктар Тураў і Віктар Дашук, Валерый Раінчык і Міхась Фінберг, Аркадзь Саўчанка, Аляксандр Анісімаў і многія іншыя, каго не трэба прадстаўляць чытачам, бо яны іх выдатна ведаюць і любяць. А гэта таксама аказвае станоўчы і спрыяльны ўплыў на актывізацыю жыцця вышэйшай школы культуры. Усё гэта ў сукупнасці можна назваць новымі натуральнымі павевамі будучага, ужо века XXI-га.

**Уладзімір МАМОНЬКА.**

# КУДЫ ЦЯКУЦЬ МАЛОЧНЫЯ РЭКІ?

Так, раней мы любілі вобразна пісаць пра малочныя рэкі Беларусі, што ў нечым і было апраўдана. Сёння, калі гаварыць зноў жа вобразна, гэтыя рэкі вельмі і вельмі памялелі — зніжаецца пагалоўе кароў, змяншаюцца надоі. Але і самі напрамкі рэк за апошні час памяняліся.

Сёння не толькі прыватнік не здае, як раней, малако калгасу, каб далей яно ішло на малаказавод, сёння ў многіх калгасах стараюцца адправіць прадукцыю сваіх малочнатаварных фермаў, мінуючы ранейшыя шляхі. Эканамічная выгада, нічога тут не зробіш. Таму ўжо многія гараджане прызвычаіліся купляць малако ды смятанку не ў краме, а недзе пад крамай у знаёмай цёткі, а то і з машыны, якая прывезла яўна калгасныя біклагі малака.

Адміністрацыйна з гэтым змагацца, напэўна, немагчыма. А вось у Глыбокім на Віцебшчыне дырэктар мясцовага малочнакансервавага камбіната вырашыла заахвочваць старшынь гаспадарак. Перада мной загад дырэктара Г. Ермаковіч: за тое, што 19 гаспадарак Глыбоцкага, Шаркаўшчынскага і Докшыцкага раёнаў здалі на камбінат у студзені малака больш, чым у студзені мінулага года, старшыні калгасаў атрымаюць прэмію ў памеры 200 тысяч рублёў кожны.

Можна, вядома, паразважаць аб тым, што не старшыні дояць ды даглядаюць жывёлу, але ад іх таксама многае залежыць. Ці ёсць які вынік?

Магчыма, не толькі ад прэміравання, але ў Глыбоцкім раёне у першыя дні сакавіка здавалі на камбінат да 37 тон малака, у дваццатыя — ужо больш як пяцьдзесят. Зробім папраўку на ацёлы. Але ж малако сталі здаваць роднаму камбінату нават тыя, хто яго раней аб'язджаў. Павялічылася здача малака дзяржаве і ад насельніцтва — тут свая зацікаўленасць.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

НАБАЛЕЛАЕ

# МЫ ЎСЁ БОЛЬШ АПУСКАЕМСЯ Ў БРУД. І МАЎЧЫМ

Інтэлігентнага выгляду мужчына, які стаяў на прыпынку, прагна зрабіў пару зацяжак і кінуў недакурак пад колы пад'ехаўшага аўтобуса...

Каму з нас не даводзілася назіраць падобнае: разрабаваныя ліфты, запляваныя пад'езды, выкінутыя на тратуар кучы смецця, узарваны для пракладкі камунікацый асфальт, а потым абы-як прыгорнутыя каўшом «раскопкі».

А давайце выйдзем за ваколіцы таго ж Гродна або на пусткі вакол яго... Навокал кучы смецця, бруд, кавалкі бетону, шкла, поліэтылену... Перабольшваю? У тым і горкая праўда, што не.

Я магу запрасіць чытачоў пахадзіць па прыгарадных лясах, барах і бярэзніках, размешчаных каля дачных участкаў. Толькі сэрца зусім чэрствага чалавека не абліецца крывёю пры выглядзе тамтэйшых пейзажаў — скруткі плёнкі, бляшанкі, шклянкі, бітае шкло, адходы будматэрыялаў... А давайце зойдзем у лясок, паблізу якога размясцілася сярэдніх памераў жывёлагадоўчая ферма: горкі смецця, рэшткі касцей здохлых жывёл, шыферу, толю, гумы... А колькі ўжо сярод гэтага мноства брыдоты грудкоў-«ветэранаў», узрост якіх пераваліў за пару дзесяткаў гадоў. Амаль паўсюдныя помнікі нашага сацыялістычнага гаспадарання паспелі ўжо абрасці мохам і схавалі ад чалавечага вока змесціва гэтых злаякасных гнайнікоў на целе матухны-зямлі. Дадамо сюды нячыстыя сляды ў нашых лясах шматлікіх грыбнікоў, зборшчыкаў ягад, паляўнічых, якія на легкавіках дабіраюцца ў самыя далёкія куткі і таму цяжка сёння знайсці чысты лапік прыроды.

Чаму гэта адбываецца? Чаму мы ўсё больш апускаемся ў бруд і маўчым?

Па-першае, прычына ў нас саміх. Раней даволі часта мне даводзілася бываць у кватэрах грамадзян. Звычайна паўсюль, за выключэннем прытонаў, чысціня і парадак. Але варта выйсці за дзверы кватэры ці агароджы прыватнага сектара — смецце, бруд, запляванасць, — таму што не маё, а наша, можна ламаць, паліць, пляваць. Рэдкая жонка дазваляе курыць у кватэры свайму мужыку, а тым больш кідаць недакуркі на падлогу. А ў грамадскім месцы... Здаецца, калі б у вялікім горадзе толькі на тыдзень не стала прыбіральшчыкаў, ён бы патануў у моры бруду. Магчыма гэта ў нас у крыві — азіятчына. Ну не можам мы, як у Еўропе, быць культурнымі людзьмі, не можам не пляваць ва ўласны калодзеж, не сячы сук, на якім сядзім...

Але калі такая справа, чаму маўчыць дзяржава са сваім шматлікім чыноўніцкім апаратам? Чаму яна не ўмешваецца, чаму не схопіць за руку грамадзяніна-вандала? Чаму б у лясах ля дачных участкаў не вывесіць хоць бы некалькі плакатаў з просьбай не забруджваць лес? А дзе работнікі лясной гаспадаркі, сельскіх Саветаў — ці гэта не іх тэрыторыі?

А ў гарадах... На прыватніка, які рэгулярна выкідвае на дарогу смецце няма ўправы? Ёсць! Як яе можна знайсці і на дырэктараў прадпрыемстваў, падначаленыя якіх выкідваюць смецце за агароджу. Вось так: адказнасць за забруджванне ёсць, а вінаватых няма. Справа дайшла да таго, што ў вёсках смецце пачалі выкідваць амаль сярод вуліцы — ніхто ж не забараняе! Тым больш, што ў адрозненне ад гарадоў у наваколлі большасці сельскіх паселішчаў наогул няма адведзеных уладамі звалак. А паглядзіце, што робіцца побач з вясковымі могілкамі...

Што рабіць? Чакаць пакуль на Беларусі не застанецца ніводнага чыстага кавалачка зямлі?

Вядома, дзесьці нейкія крокі ў гэтым напрамку робяцца. «Звязда» ўжо паведамляла, што ў Берастavіцкім раёне ва ўсіх населеных пунктах выбраны старасты, на якіх, дарэчы, ускладзены і гэтыя задачы. Ёсць (праўда, пераважна на паперы) і грамадскія органы кіравання ў гарадах — дамавыя камітэты. Але як яны працуюць? Ці ведаюць нашы грамадзяне ў твар або хаця б прозвішчы адказных таварышаў?..

Напэўна, штосьці могуць зрабіць дэпутаты мясцовых Саветаў, грамадскія арганізацыі, проста нераўнадушныя грамадзяне. Але ж гэта не выйсце, тым больш што іх звароты ў тыя ж ЖЭСы справы не паляпшаюць. На мой погляд, тут патрэбны кардынальныя змены.

Па-першае, гэта падрыхтоўка новых нарматыўных актаў па ахове навакольнага асяроддзя. Але, здаецца, не хутка дойдуць рукі да гэтага ў нашых заканатворцаў.

Па-другое, гэта больш рашучае адміністрацыйнае ўмяшанне дзяржавы ў абарону прыроды, навядзенне парадку ў гарадах і вёсках. Давайце звернемся, дарэчы, да вопыту суседзяў. У Рызе напрыклад, адзін недакурак «пад ногі» цягне штраф у памеры 10 долараў. Кінуў адзін раз, другі, а на трэці давядзецца добра падумаць. У выніку і горад чысты, і ў бюджэце капейка.

Пэўна, без пашырэння адміністрацыйных захадаў тут не абысціся. Раней многа спадзяванняў ускладалі на экалагічную міліцыю. Але што могуць зрабіць у горадзе адзін-два экалагічныя інспектары? Ну выявяць яны па 30—40 парушэнняў за месяц. Але ж іх учыняецца кожны дзень у такім горадзе, як Гродна, некалькі соцень. Да таго ж гэтыя справы разглядаюцца адміністрацыйнымі камісіямі райвыканкомаў з іх доўгімі бюракратычнымі працэдурамі. Інспектар ДАІ можа штрафаваць парушальнікаў на месцы, а тут за недакурак або вядро памыяў — на камісію.

Па-трэцяе, парадку было б больш, калі б да справы падключылася больш шырокае кола службовых асоб. Сёння амаль палова міліцыі ўтрымліваецца за кошт мясцовых бюджэтаў. А колькі пратаколаў складаюць, напрыклад, участковыя па адпаведнаму артыкулу Адміністрацыйнага кодэкса? У сярэднім па аднаму ў месяц. І не будуць болей, бо ў справаздачах аб выніках работы гэтыя паказчыкі не прадугледжаны. Не абавязвае гэта рабіць органы ўнутраных спраў і Закон «Аб міліцыі».

Возьмем яшчэ адну катэгорыю — дворнікаў, на вачах якіх часта засмечваецца наваколле. Чаму б не даць ім правы прыцягваць парушальнікаў да адказнасці, як гэта было ў ранейшыя часы, калі ён быў паважанай асобай? У цара-бацюхны дворнік уваходзіў у штат паліцыі. І хаця ён стаяў на самай ніжэйшай прыступцы, аднак у яго былі свісток, нагрудны знак — паспрабуй не адрэагаваць на заўвагу такога чыноўніка.

Так, адміністрацыйныя меры адно. Але не толькі прымусам можна выратаваць сябе і нашчадкаў ад экалагічнай катастрофы. Трэба пачынаць з дзіцячых садкоў, школ, уводзіць у вушы як малітву: не забівай прыроду! А сродкі масавай інфармацыі таксама маглі б істотна ўплываць не свядомасць суайчыннікаў.

Яшчэ ў часы СССР, калі межы былі адкрытыя, падчас наведвання курортных Друскенікаў цешылі вока дагледжаныя палісаднікі, утульныя дворыкі і акуратныя агароджы — прыгожа. Але як толькі аўтобус перасякаў тады яшчэ не дзяржаўную мяжу, — вось яна, наша беларуская рэальнасць.

Так, у нас і сёння, нягледзячы на Чарнобыль, многа зямлі. На душу насельніцтва прыпадае больш за ўсіх у Еўропе, акрамя скандынаваў і суседзяў з Усходу. Але калі мы і надалей будзем гэтак жа забруджваць нашы рэкі і азёры, лясы і палеткі, ці пакінем мы заўтра нашчадкам ва ўсёй сваёй прыгажосці тое, чым заўсёды ганарыліся перад усім светам — нашу непараўнальную прыроду?

**Георгій СЫСОЙ,**
**дэпутат Гродзенскага гарадскога Савета.**

